# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (608) Год XII 22 КАСТРЫЧНІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.

## САЛДАТЫ КАСТРЫЧНІКА

Значыць было так: бацька мой, святой памяці, Антон Паўлавіч, апрача мяне меў яшчэ двух сыноў. Старэйшага Антона і малодшага Пятра. 4 гады хадзіў я ў школу, вучыўся, гаварылі, добра, але на гэтым мая адукацыя закончылася. Было ў нас 9 гектараў зямлі. Бацька летам працаваў на полі, а зімой ездзіў на вывазку лесу ў пушчу. Тут яго аднойчы прыдушыў дуб і бацька астаўся калекай.

Так прайшоў 1914 год. Дзесьці сярод лета прыехаў верхавы з воласці і аб'явіў: **«Вайна! Вайна!»** На другі дзень 25 чалавек з нашай вёскі пайшло бараніць «веру, цара і бацькаўшчыну». Многіх сярод іх мы больш ужо ніколі не пабачылі. Мой брат Антон таксама загінуў на вайне.

Хлопцы, такія як я, бегалі ў Гайнаўку на станцыю паглядзець на салдат. Тады ў Гайнаўцы не было яшчэ горада, стаяла ўсяго некалькі хат і станцыя. На станцыі быў вялікі рух. З Расіі ішлі цягнікі з войскам, а назад у белых вагонах везлі параненых. Было іх усё больш і больш. Набліжаўся да нас фронт. У Гайнаўцы размясцілася войска. Аднойчы прыляцеў нямецкі аэраплан, кінуў адну бомбу і забіў аднаго чалавека. Людзі спалохаліся, бо яшчэ ніколі на вочы не бачылі такога дзіва.

На шашы, якая ідзе з Бельска на Пружаны, паявіліся абозы бежанцаў. Ішлі дзень і ноч. Гоман і грукат не спыняліся на хвіліну.

Было гэта летам. На палях даспявала жыта. Ніхто нічога не рабіў. Людзі не ведалі свайго лёсу. Аднаго дня прыехаў у нашу вёску афіцэр. Сабраў людзей і кажа, што тут, дзе наша вёска Горная, перад Белавежскай пушчай, арганізуецца перадавая пазіцыя. Усё будзе спалена, з зямлёй зраўнана. Трэба тады здаць войску ўсялякую жывёлу і ўцякаць у глыбокі тыл. Так і было. На другі дзень парабілі людзі цыганскія буды на вазах, сабралі хто што мог ды бывай родная старонка! Калі перабраліся праз Белавежскую пушчу і пад Пружанамі даехалі да шашы, якая ідзе з Высокалітоўскага, то там зноў пабачылі бясконцы абоз бежанцаў. Воз за возам. Чакалі аж да ночы, каб неяк уціснуцца ў гэты абоз. Потым накіраваліся на Слонім. У дзень




ехалі, а нанач спыняліся ў лесе. Распальвалі вогнішчы, варылі ежу, адпачывалі — людзі і коні. Ля шашы ўсё часцей траляліся свежыя магілкі дзяцей, а часамі і вялікія магілы дарослых. Хтосьці пастаянна плакаў, ляментаваў, стагнаў... Аднекуль з'явілася зараза. Усе хацелі, як мага хутчэй, адарвацца ад гэтага пекла. Гаварылі, што ў Слоніме пагрузяць нас у вагоны. З надзеяй дапляліся мы да Слоніма, а там... бежанцы ўжо па два тыдні сядзяць на станцыі і чакаюць на транспарт. Бацькі пасядзелі крыху, паглядзелі і рашылі адпраўляцца далей коньмі на Баранавічы. Коні аднак ужо стаміліся. Не хапала для іх корму. Прасілі, куплялі і так бралі. Тысячы тысяч бежанцаў, бы саранча, ачысцілі ўсё, што было ля дарогі. Штоноч прыходзілася адпраўляцца далёка ад шашы, каб раздабыць хаця снапок аўса, ці бярэмя сена. Аднаго дня пад вечар на пошукі корму для коней адправіўся я са сваім сябрам Грышкам. Адышлі вёрст хіба 6—7 і бачым, што ад шашы адыходзіць шырокая дарога абсаджаная ліпамі, а там, дзе яна канчаецца — астравок высокіх старых дрэў, сярод якіх бялеюць сцены нейкага палаца. На палях — аграмадныя стагі нядаўна скошанага збожжа.

— Вось добра папалі! — закрычаў Грышка, і мы кінуліся да стагоў з аўсом. Выцягнулі па два снапкі і давай уцякаць. А тут раптам хтосьці крычыць:

— Стойце! Стойце!

Азіраемся, а за намі імчыцца на кані нейкі дзядзька, а на вяроўцы ў яго велізарны сабака.

— Стойце, зладзеі, бо спушчу на вас сабаку! — крычыць.

Што ж было нам рабіць? Мы спыніліся, а снапкі аўса самі з рук высунуліся.

— Мы, паночку, бежанцы, пусціце нас, даруйце, — прашу яго, а ён кажа, што не можа пусціць, бо мы зладзеі і пан яго бачыў, як мы кралі, дык хай ён сам нас пускае. Увайшлі мы за браму, а там — велізарны двухпавярховы палац, якога яшчэ ў жыцці я не бачыў. Пад калонай на сходах сядзіць сівы, вусаты пан. Паглядзеў ён на нас і кажа свайму батраку, ці як яго там:

— А, зладзеяў злавіў. Цяпер многа гэтага паскудства развялося.

Мы ў плач, што коні здыхаюць, што па адным толькі снапку хацелі ўзяць, просім, каб адпусціў, бо ад абоза бежанцаў, ад сваіх бацькоў адстанем. А ён да свайго слугі:

(Працяг на стар. 4)



**Ян Зінюк з Горнага пад Гайнаўкай, былы салдат Кастрычніка, а зараз таксама з'яўляецца актыўным грамадскім дзеячам.** Фота аўтара

## Успаміны з канікулаў



**Груповае фота ўдзельнікаў экскурсіі на Марскім Воку.**

Мілыя ўспаміны з канікулаў засталіся ў членаў школьнага духавога аркестра з беларускага ліцэя ў Бельску (вядзе аркестр настаўнік Станіслаў Максімовіч).

За вельмі актыўны ўдзел гэтага аркестра ва ўсіх мерапрыемствах звязаных са святкаваннем Тысячагоддзя польскай дзяржавы, кураторыя прызнала яму ўзнагароду ў выглядзе сямідзённай экскурсіі ў горы, Кракаў, Новую Гуту, Велічку і іншыя вельмі атракцыйныя мясцовасці нашай краіны.

**Ю. Р.**

Выбіраючыся ў хату сляпца Фёдара на ўсялякі выпадак рашыў я старацца нічога дрэннага аб ім не думаць. Бо хто яго ведае... Прыйшлося многа пачуць ад розных асоб аб празорлівасці сляпца з Лядаў. А ну ж нейкая тэлепатыя і, даведаўшыся аб маіх намерах, варажбіт не захоча са мною гаварыць.

Асцярожнасць мая аказалася непатрэбнай. Я хутка пераканаўся, што апрача простай, прымітыўнай маны ў славутага Федзі няма аніякіх «гадальных» здольнасцей. Свядома пачаў ашукоўваць гадальніка, плясці яму розныя небыліцы. Потым слухаючы «празорліўца» пачаў я складаць сабе план артыкула, які аб ім напішу ў «Ніве», затым зайшоўшы на панадворак аблаяў у голас знаходзіўшагася за сцяною «празорліўца». Вярнуўшыся назад у хату яшчэ раз сцвердзіў, што «празорлівец» аб нічым не ведае: гаварыў ён і рабіў надалей рэчы, на якія ніколі не дазволіў бы, каб ведаў, чаго шукаю ў яго хаце. А шукаў я ў яго хаце адказу на пытанне: кім з'яўляецца гэты даволі дзіўны чалавек, і ў чым таямніца яго дзіўнай славы «празорліўца», знахара, «святога»?

*

У Саюзе ацямнелых у Беластоку знаходжу кароткія персанальныя дадзеныя: Фёдар Паўлючук, родам з вёскі Ляды ў Гайнаўскім павеце, нарадзіўся 24. III. 1924 года, да саюза ацямнелых належыць ад 1952 года. Унізе анкеты нехта алоўкам дапісаў: «на ўтрыманні бацькоў — варажбіт».

## МАЕ ЗНАЁМСТВЫ СА СЛЯПЦОМ ФЁДАРАМ



Да гэтых скромных звестак можна дадаць нешта. Бо біяграфія Федзі багатая, поўная высокіх узлётаў і непрыемных упадкаў. Найвышэйшым узлётам быў канец саракавых і пачатак пяцідзесятых гадоў. Грымнула тады па нашых вёсках звестка, што ў вёсцы Ляды жыве малады прарок, празорлівец, святы — сляпец Фёдар. І пакаціўся гурбою наш народ у невялікую гайнаўскую вёсачку, несучы з сабою свае клопаты, жыццёвыя цяжары, жаданне прадбачыць няўстойлівую будучыню, ды яшчэ зразумела — як дадатак да гэтага — пэўныя «падаркі» для «празорліўца». 30-цігадовы Федзя быў у вяршыне славы. Старэйшыя жанчыны і маладзіцы — прыгажуні амаль насілі яго на руках, вазілі з вёскі ў вёску з пашанаю, з годнасцю, як чалавека, які меў за невялікаю заплатаю адкрыць ім дарогу да шчасця, да раю, да поспехаў у каханні, у сямейным жыцці і гд.

І невядома як доўга трывалі б цырымоніі «празорліўца» ў лядаўскай хаце, калі б не ўмяшаліся ў гэта адпаведныя ўлады, занепакоеныя незвычайным сцёкам людзей, а перад усім сцёкам у гайнаўскую вёску грошай і матэрыяльных сродкаў ад небагатых нашых сялян. Фёдар увайшоў у канфлікт з адпаведным параграфам, які забараняў ашуканскімі спосабамі вымушаць ад людзей грошы. У Лядах прыціхла. «Празорлівец» перанёсся ў вёску Чаромуху і пасяліўся ў мясцовай адзінокай жанчыны. Пражыў з ёю 12 гадоў. Жанчына аказалася хітрай і зладзейнай. Пастанавіла выкарыстаць фінансавыя сродкі Федзі, а потым яго пазбыцца. Проста хацела замарыць сляпца голадам, замкнула ў каморцы сваёй хаты і нікога да яго не дапускала. На шчасце суседзі заявілі аб тым міліцыі. Жанчына трапіла пад суд, а Федзі прыдзелена кавалак хаты (кухню), у якой жыве ён цяпер.

У час свайго пражывання ў Чаромусе Федзя Паўлючук рэдка выступае публічна ў ролі «празорліўца», часам аднак выступае. Найбольш спрыяльныя для яго вялікія рэлігійныя фэсты, асабліва фэст на Грабарцы. Тут менавіта аўтару артыкула давялося аглядаць яго «працу» ў 1965 годзе. Федзя стаяў пад сцяною грабаўскай царквы перад гурбою людзей і маліўся. Штораз з натоўпу падыходзіў нехта да яго, сунуў

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### БАЛАНС АГРЭСІІ Ў В'ЕТНАМЕ

На працягу апошняга месяца, згодна з пажаданнямі Пентагона, прэзідэнт Джонсан паменшыў лік аб'ектаў, якія дагэтуль знаходзіліся ў спіску выключаных з-пад бамбардзіровак. Вынікам таго былі налёты на суднаверф у Гайфонгу.

Але растуць і кошты эскалацыі. Два тыдні таму, у суботу зенітная артылерыя збіла над ДРВ **10 амерыканскіх самалётаў.** Баланс агрэсіі падвёў прафесар **А. Шлізінгер, былы дарадчык Кенедзі.** Падлічыўшы ён, што **32 месяцы эскалацыі паглынулі 13 тысяч забітых амерыканцаў, каштавалі 90 мільярдаў долараў і зруйнавалі прэстыж ЗША і іх прэзідэнта.** Шлізінгер назваў палітыку Джонсана «панурым паражэннем». і прадказаў, што, калі не прызнаецца ён да памылкі, амерыканскі народ будзе вымушаны ў 1968 годзе выбраць іншага прэзідэнта.

Аднак з выказванняў Джонсана і Раска вынікае, што не збіраюца яны перагледзаць сваёй палітыкі. Добра паінфармаваныя карэспандэнты заграчнічага друку ў Вашынгтоне **перасцерагаюць, што амерыканскае галоўнае камандаванне носіцца з намерам зрабіць сухапутнае нашэсце на ДРВ.** Выў бы гэта грозны акт эскалацыі, якога вынікі цяжка прадбачыць.

### 150 РАЗОЎ СМЕРЦЬ

Праф. **Л. Паўлінг,** лаўрэат нобелеўскай прэміі сцвердзіў, што **запасы тэрмаядзернай зброі на свеце так вялікія,** што могуць **150 разоў вынішчыць людзей зямнога шара.** Асноўную прычыну напружання міжнароднай абстаноўкі вучоны бачыць у капіталістычнай працэ дахода́ў. Пацверджаннем на словы Паўлінга з'яўляецца пастанова Вашынгтона аб стварэнні так званай сістэмы аграні́чанай супрацьракетнай абароны — АБМ. Вучоныя амерыканскія і еўрапейскія выказваюць глыбокі скептыцызм, калі разыходзіцца аб ваеннную паспяховасць гэтай сістэмы. Аднак усе згодны, што выкліча яна новую ўзмоцненую і небяспечную гонку ўзбраенняў.

Кошт гэтай «абмежаванай сістэмы» дасягне **5 мільярдаў долараў.** Аднак ніхто сапраўды не бярэ пад увагу ані гэтага ліку, ані запэўнення, што сістэма накіравана супраць... Кітая. Палітычная стратэгія Джонсана, якая абапіраецца на адпаведным дазіраванні, будзе прыменена і тут. Пасля першых пяці мільярдаў выявіцца, што сістэма патрабуе падвяення і патрання гэтага ліку, а тады ўжо будзе запозна адыйсці з усяго мерапрыемства. Так як у выпадку в'етнамскай эскалацыі.

АК.

## БССР

### ВЫСТУПЛЕННЕ

У агульнай дыскусіі на XXII сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый 5 кастрычніка г.г. выступіў міністр замежных спраў Беларускай ССР **А. Гурыновіч.**

**«Дэлегацыя Беларускай ССР лічыць магчымым выставіць ідэю аб тым, каб у рамках эканамічных органаў ААН былі падрыхтаваны такія мерапрыемствы па ахове эканамічных інтарэсаў краін, што сталі на шлях развіцця, якія прызнавалі б, што дзяржавы, якія атрымалі палітычную незалежнасць, маюць права на кампенсацыю ад былых каланіяльных дзяржаў за страты, прычыненыя іх эканоміцы ў перыяд каланіяльнай залежнасці. Інтарэсам краін, якія сталі на шлях развіцця, адпавядала б таксама стварэнне такой сістэмы міжнародных эканамічных адносін, пры якой практычна ажыццяўляліся б «прынцыпы, што вызначаюць міжнародныя гандлёвыя адносіны і гандлёвую палітыку, якая садзейнічае развіццю», адобраныя Канферэнцыяй ААН па гандлю і развіццю (1964 г.)»** — сказаў м. ін. міністр Гурыновіч.

### АРТЫКУЛ

П. Барысаў, першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі Беларусі, апублікаваў у друку артыкул пад загалоўкам: **«Людзі і зямля».**

**«Дасягненні гаспадарак перш за ўсё залежаць ад умення кіраўнікоў добра весці справу на аснове ўнутрыгаспадарчага разліку. Нам усім трэба вывучаць, аналізаваць эканоміку кожнай галіны, вышукваць рэзервы падзешаўлення прадукцыі і павышэння яе якасці»,** — піша міністр Барысаў.

### ОРДЭН

Гомельская вобласць узнагароджана ордэнам Леніна. У сувязі з тым у Гомелі адбыліся вялікія ўрачыстасці, у якіх прымалі ўдзел кіруючыя дзеячы беларускага палітычнага і гаспадарчага жыцця.

### ЗВАННІ

Апошнім часам Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прысвоіў ганаровае званне заслужанага механізатара сельскай гаспадаркі Беларускай ССР **Байготу Сцяпану** — старшыні калгаса «1 Мая» Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці і **Дзятлаву Уладзіміру** — галоўнаму інжынеру саўгаса «Ваўкавыскі», таксама на Гродзеншчыне.

### ІВАШКЕВІЧА

Газета **«Звязда»** апублікавала апавяданне **«Ікар»** Ярaслава Івашкевіча, выдатнага польскага пісьменніка нашага часу. Газета інфармуе, што выдавецтва «Беларусь» рыхтуе зборнік твораў польскіх пісьменнікаў — **«Адкрытыя скарбы».**

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ЗАЯВА

На заканчэнне візіта ў Польшчы прэм'ера Індыі — Індзіры Гандзі апублікавана супольную польска-індыйскую заяву аб выніках размоў паміж прэм'ерам Індыі і прэм'ерам Польшчы — Юзэфам Цыранкевічам.

У заяве сцвярджаецца, што абодва прэм'еры абмеркавалі шырокі дыяпазон міжнародных спраў уключна з сітуацыяй у В'етнаме і на Блізкім Усходзе, праблемы бяспекі ў Еўропе і Азіі і іншыя звязаныя з тым справы. Абодва бакі згадзіліся, што міжнародныя суадносіны характарызаваць павінны прынцыпы пашанавання нацыянальнага суверэнітэту, тэрытарыяльнай інтэгральнасці і неўмяшання ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў.

Асаблівую ўвагу падчас перагавораў прысвечана в'етнамскай вайне. Абодва прэм'еры яшчэ раз падкрэслілі, што канфлікт гэты павінен быць развязаны на аснове жэнеўскіх пагадненняў ад 1954 года і на аснове права в'етнамскага народа да вырашання аб сваім лёсе. Першым крокам на гэтай дарозе павінна быць безагаворачнае ўстрыманне бамбардзіровак Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама.

Далейшая частка заявы датычыць двубаковых польска-індыйскіх суадносін. Выказана задавальненне з добрага іх развіцця, а таксама неабходнасць далейшага іх паглыблення, асабліва ў галіне гаспадарчага супрацоўніцтва.

Прэм'ер Індыі запрасіла прэм'ера Польшчы — Юзэфа Цыранкевіча зрабіць візіт у Індыю ў адпаведным для яго тэрміне. Запрашэнне прынята з задавальненнем.

### НАРАДА

12 кастрычніка адбылася ў Варшаве нарада сельскагаспадарчых сакратароў Ваяводскіх камітэтаў партыі. У нарадзе прыняў удзел Уладзіслаў Гамулка, які ў сваіх выступленнях асабліва падкрэсліў неабходнасць падрабязнай аналізы затрудненняў на дарозе да далейшага развіцця сельскай гаспадаркі. Кожны павет, гаварыў Ул. Гамулка, павінен мець дакладны вобраз сітуацыі ў кожнай грамадзе, грамада — у кожнай вёсцы, а кожная вёска — у пасобных групах гаспадарак. Для гэтага ў кожную грамаду высланы будуць спецыялісты, якіх заданнем будзе знайсці адказ на пытанне: як паскорыць развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі, што з'яўляецца тормазам гэтага развіцця?

### ГРОБ КАСЦЮШКІ

14 кастрычніка адбылася ў Кракаве ўрачыстасць умяшчэння астанкаў польскага нацыянальнага героя Тадэуша Касцюшкі ў Крыпце св. Леанарда на Вавелі. Астанкі перавезены былі са Швейцарыі, дзе Касцюшка памёр. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### XIII СЕСІЯ ВРН

16 і 17 кастрычніка радныя ваяводскай рады на XIII звычайнай сесіі абмеркавалі праблемы будаўніцтва і разглядзелі становішча ў галіне вытворчасці будаўляных матэрыялаў у 1966 — 1970 гадах. Апрача таго ВРН прыняла пастанову аб супрацьпажарнай ахове ваяводства, выбрала новых судовых народных заседацеляў і заслухала інфармацыю Прэзідыума ВРН аб яго дзейнасці за час ад апошняй сесіі.

### УРАЧЫСТАСЦІ ЛОК

Член ЦК і І-шы сакратар ВК ПАРП, пасол А. Лашэвіч прыняў прадстаўнікоў ваяводскай арганізацыі Лігі абароны краіны — ЛОК. У сувязі з V агульнакраёвым з'ездам гэтай арганізацыі, які адбыўся ў Варшаве, кіраўніцтва беластоцкай арганізацыі ЛОК склала А. Лашэвічу справаздачу аб сваёй дзейнасці. Затым адбылася ўрачыстасць па ўручэнню павятовай арганізацыі Лігі абароны краіны ў Беластоку сцяга, які абсталявала грамадскасць Беластоцкага павета. З гэтай нагоды прысвоена медалі «За заслугі для абароннасці краіны» Аляксандру Камінскаму, Яну Вальчуку, Аляксандру Давідзюку, Уладзіславу Пракопчуку, Зігмунту Ясkульскаму, Мікалаю Міруцю і Ежы Віткевічу.

### ЮБІЛЕЙ

Рабочы універсітэт, якім апякуецца Ваяводскае праўленне Саюза сацыялістычнай моладзі, дзейнічае ўжо 10 год. З гэтай нагоды галоўнае праўленне ЗМС прысвоіла беластоцкаму рабочаму універсітэту залатую адзнаку імя Янка Красіцкага. 14 кастрычніка ЗМС-аўскі універсітэт пачаў чарговы год сваёй асветнай дзейнасці.

### ГАРЦЭРСКАЯ «АЎРОРА»

Сёлеташняя праграма дзейнасці Саюза польскіх гарцэраў падпарадкавана святкаванню вялікага юбілею — 50-годдзю Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Сімвалам гэтай дзейнасці ёсць гістарычная «Аўрора» і таму цэлая гарцэрская сёлеташняя праграма завецца таксама «Аўрора». 14 кастрычніка да гэтай акцыі ўключылася амаль 6 тысяч беластоцкіх гарцэраў і зухаў. Ва ўрачыстасцях, якія адбыліся ў Беластоку, між іншым, прыняў удзел сакратар Гарадскога камітэта Камсамола з горада Коўна, Ёнас Бельскіс.

### КЛУБ СД

У Бельску адкрыта клуб Стронніцтва Дэмакратычнага. У першых днях дзейнасці клуба адбылася сустрэчы яго наведвальнікаў з афіцэрамі Войска Польскага.

### КІРМАШ У САКОЛЦЫ

Ваяводскае праўленне сялянскай спулдзельні «Самапомачы» ў Беластоку 15 кастрычніка наладзіла ў Саколцы вялікі кірмаш-выстаўку, у час якой можна было паглядзець і купіць мэблю, матацыклы, штучнае ўгнаенне і многа іншых тавараў.

(вр)




NIEDZIELA, 22.X.

8.40 TV Kurs Rolniczy: „Poprawa środowiska w budynkach starych lub niewłaściwie zbudowanych, z konieczności używanych". 9.15 „Przypominamy, radzimy". 9.30 „Leningrad — miasto Rewolucji".10.00 Dla młodych widzów: Transmisja z zakończenia harcerskiej akcji „Aurora". 10.45 PKF. 10.55 Pragram muzyczny — gra Wielka Orkiestra Symfoniczna Polskiego Radia (Katowice) 11.40 Wiadomości dziennika TV. 11.55 Sprawozdanie sportowe. 12.45 „Koń, który mówi". — film. 13.10 „W starym kinie" — II Festiwal Starych Filmów. 14.10 „Przemiany". 14.40 Z cyklu „Portrety" — Maksym Gorki. 15.30 „Ludzie i zdarzenia" — „Trzcina". 15.45 Teatr Niedzielny: „Znakomity komiwojażer". 16.45 Program filmowy. 17.00 Sprawozdanie sportowe. 18.25 „Tawerna pod dębem". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Herbaciarnia „Pod Księżycem" — film fab. USA. 22.00 Niedziela sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 23.X.

16.00 Politechnika TV. Geometria wykreślna I roku. „Elementy równoległe". 16.30 Politechnika TV. Chemia I roku. „Kinetyka i statyka reakcji chemicznych". 17.00 Wiadomości dziennika. 17.05 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.25 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.40 „Na zdrowie". 18.00 „Eureka". 18.30 „Kino Krótkich Filmów". 19.05 „W Kanionach" — film Tele-Aru. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr TV: J. Bliziński — „Pan Damazy". Reż. J. Słotwiński. 21.45 „Bez apelacji" cz. II. 22.15 Dziennik TV. 22.30 Program na jutro. 22.35 Politechnika TV.Geometria wykreślna I roku. „Elementy równoległe" (Gdańsk). 23.05 Politechnika TV. Chemia I roku. „Kinetyka i statyka reakcji chemicznych" (Katowice).

WTOREK, 24.X.

10.00 Dla szkół: (kl. I) „Jesienią". 10.15 „Interludium w Wenecji" — film. 11.05 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — M Gorki „Jegor Bułyczow i inni". 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Gleba jako środowisko wzrostu roślin". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Gleba jako środowisko wzrostu roślin". 15.45 Politechnika TV. Matematyka II roku. „Ciągi funkcyjne". 16.25 Politechnika TV. Matematyka II roku. „Szeregi funkcyjne". 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy". 17.25 Dla młodych widzów: „Latający Holender". 17.55 „Telekram". 18.05 „Na tropie blagi" — teleturniej. 18.35 „Na przykład w Ełku" („7 milionów młodych"). 18.50 „Próby" — miesięcznik konsumenta. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 TV Kurier Warszawski. 20.20 „Interludium w Wenecji" — film. 21.10 „Nie nasza sprawa". 21.35 „Piosenki francuskie" — film. 21.50 Dziennik TV. 22.05 Program na jutro. 22.10 Politechnika TV. Matematyka II roku. „Ciągi funkcyjne". 22.40 Politechnika TV. Matematyka II roku. „Szeregi funkcyjne".

SRODA, 25.X.

8.20 „Europelis" — film fab. rum. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „O sile i jej mierzeniu". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Przemysł w najbliższej pięciolatce". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Korozja — wróg metali". 12.25 Przerwa. 15.45 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Płaszczyzna i prosta w przestrzeni". 16.20 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Płaszczyzna i prosta w przestrzeni". 16.50 Wiadomości dziennika. 17.00 Koncert Ukraińskiej Kapeli Bandurzystów (Moskwa). 17.30 Dla dzieci. „Zabawy z wyobraźnią". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 PKF. 18.20 Wszechnica TV: „Za kierownicą". 18.50 „Reportaż z Syrenką". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Człowiek, który zdemoralizował Hadleyburg" — film TV prod. pol. 20.35 „Światowid". 21.05 „Studio 63" — „Cabaret Warietano czyli XI Muza". 22.20 Dziennik TV. 22.40 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Płaszczyzna i prosta w przestrzeni" cz. I. 23.10 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Płaszczyzna i prosta w przestrzeni" cz. II.

CZWARTEK, 26.X.

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Magnaci, szlachta i chłopi". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Ignacy Krasicki". 15.40 Program dnia. 15.45 Politechnika TV. Fizyka II roku. „Ruch falowy" cz. II. 16.25 Politechnika TV. Fizyka II roku. „Fale stojące". 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.30 „Edward Grieg — Chopin północy" — program muzyczny. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Losy absolwentów" — program Red. Młodzieżowej. 20.35 Teatr Kobra: L. Sands „Powrót męża". 21.35 „Refleksje". 22.05 Dziennik TV. 22.20 Program na jutro. 22.25 Politechnika TV. Fizyka II roku. „Ruch falowy" cz. II. 22.55 Politechnika TV. Fizyka II roku. „Fale stojące".

PIĄTEK, 27.X.

8.20 „Człowiek, który stchórzył" — film fab. CSRS. 9.55 Dla szkół: (kl. lic.) Wychowanie obywatelskie — „Panorama" — mag. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Z ziemi włoskiej do polskiej". 15.40 Program dnia. 15.45 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Równanie linii, okrąg". 16.25 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Elipsa i hiperbola". 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 „Klub dobrych gospodarzy". 17.40 „Opowieści o grotołazach" — film („Wielka przygoda"). 18.10 Magazyn Medyczny. 18.40 „Wielokropek". 19.05 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.10 „Ślady twardsze od skał" — wspomnienia związane z pobytem Lenina na Podhalu. 20.40 Teatr TV: J. Broszkiewicz — „Niepokój przed podróżą" — reż. M. Straszewska. 22.30 „10 minut recenzji". 22.40 Dziennik TV. 23.00 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Równanie linii, okrąg". 23.30 Politechnika TV. Matematyka I roku. „Elipsa i hiperbola".

SOBOTA, 28.X.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Z biegiem Wołgi". 10.30 „Władcy morza" — film fab. USA. 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Środowiska dla krów mlecznych". 16.30 Program tygodnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „Czy możesz zostać projektantem mody?" — telekonkurs. 17.50 „W przestworzach, czyli ciekawe opowieści lotników". 18.05 „Aby ocalić inne gatunki" — film („Świat, który nie może zginąć"). 18.30 „Tele-Echo". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Monitor. 20.10 „La Fontaine wiecznie żywy" — film. 20.40 Dziennik TV. 20.55 Wiadomości sportowe. 21.05 „Muzyka i aktualności" — program rozrywkowy (Łódź). 22.00 „Władcy morza" — film fab. USA.




PIĄTEK, 20.X.

14.20 Program. 14.25 Dziennik, 14.30 Język angielski dla przedszkolaków. 14.50 Dla uczniów. 15.20 Tezy KC KPZR. 15.25 „Wszystko dla człowieka". 16.00 „Sztafeta nowin". 17.00 Koncert galowy Wszechzwiązkowego Festiwalu Twórczości Amatorskiej.

SOBOTA, 21.X.

8.00 Gimnastyka. 8.30 Dla uczniów szkół technicznych. 9.30 Język angielski dla przedszkolaków. 9.50 Film dla uczniów. 11.35 Program. 11.40 Dziennik. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Eureka. 14.15 „Od Lutego do Października". 14.30 Klub filmowy. 16.30 Pieśni A. Pachmutowej. 17.30 „Expo-67". 17.45 Poczta „Ogońka". 18.30 Dziennik. 19.00 „Czeromuszki". Film. 20.30 „Piosenka popularna 1967 roku".

NIEDZIELA, 22.X.

7.55 Program. 8.00 „Budzik". 8.30 „Wiedza". 9.00 Dla uczniów. 9.30 „Leningrad — kolebka rewolucji". 9.45 Kronika filmowa. 9.55 Tezy KC KPZR. 10.00 „Śladami Października". Koncert harcerskich zespołów. Transmisja z Warszawy. 11.35 Program. 11.40 „Szkatułka muzyczna". 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Dla żołnierzy. 14.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Mińsk). 14.50 Dziennik. 15.00 „Kiosk muzyczny". 15.30 Film animowany dla dorosłych. 15.50 „Almanach muzyczny". 16.45 „Blaski i cienie". 17.20 „Muzyka". 17.30 Kronika półwiecza. „Rok 1947". 18.30 Dziennik. 19.00 „Wesele pod warunkiem". Film. „Pajac w mieście". Film dokumentalny.




Хаця там, дзе мы бываем, збіранне «барахла», як называюць людзі, выклікае здзіўленне цікаўных, нам гэта не выдаецца чымсьці нязвыклым. Для нас гэта штосьці звычайнае.

Напярэдадні плануем выезд у павет, выбіраем нават акрэсленыя грамады. У выслужаную «Нысу», якая адведала амаль усе сцежкі-дарожкі паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, сядаюць сакратар ГП БГКТ Ул. Юзвюк, кіраўнікі: К. Хлябіч і М. Лобач або двух з вышэй успамянутых працаўнікоў ГП БГКТ і едуць па цэнны скарб для нашага маладога музея.

Шукаем сваіх знаёмых — настаўнікаў, працаўнікоў ГРН або актывістаў. Наогул лепш мець з сабой чалавека, які ведае сваю тэрыторыю, хаця бывае таксама, што ездзім самі.

Стараемся ў першую чаргу знайсці людзей, якія маюць т.зв. «залатыя рукі». Гэтыя людзі тое што самі зрабілі найчасцей перахоўваюць. І таму ў іх хутчэй за ўсё можна штосьці цікавае знайсці.

Тыповая размова:

— Добры дзень! — пры гэтым яшчэ некалькі ветлівых слоў, якіх вымагае звычай і тады прадстаўляемся: — Мы з Беларускага таварыства ў Беластоку. Збіраем экспанаты ў Беларускі музей у Белавежы... часта слова «экспанаты» не бывае зразумелым і прыходзіцца выясняць шырэй, што гэта значыць.

Пры гэтым не абыходзіцца без смешных сцэнак, асабліва тады, калі чалавек, да якога заедзем, з пачуццём гумару. На наша выясненне, што мы збіраем рэчы калісьці прыдатныя, а зараз ужо непатрэбныя ў гаспадарцы, адказвае:

— Тады бярыце і мяне ў свой музей, або хоць жонку.

Калі чалавек жартуе, мы ўпэўнены, што не пашкадуе таго, што сам выканаў уласнымі рукамі. — Няхай будзе хоць памяць па мне ў вашым музеі, — і выцягвае з розных закуткаў цікавыя часта і арыгінальныя прадметы.

Іншыя зноў не ведаюць, што нам патрэбнае.

— Што гэта за экспанат — пастка, калі яшчэ і сёння яе ўжываем, — кажуць, — ну, але калі вам патрэбная, дык бярыце гэтую горшую.

А мы толькі і думаем, каб селянін даў нам тую, якая для яго «горшая». Яна мае якраз большую вартасць для музея.

Бывае зноў і так, што чалавек зусім не ведае, што мае. Калі да яго заходзім, раскладае рукі: — нічога няма. Была барана старая, саха, такая даўжэзная, але парубаў і спаліў.

Тады ветліва просім пашукаць штонебудзь на падстрэшшы. Падстрэшша можа аказацца, ў многіх гаспадароў тым чарадзейскім складам, дзе ёсць усё, між іншым рэчы, якіх шукаем.

А яшчэ калі гаспадар дазволіць пашукаць нам, напэўна не выйдзем з пустымі рукамі. Іншы раз хтосьці хваліцца — маю такую цікавую рэч, што і сам не ведаю, да чаго служыць. Нам тады толькі хочацца папасці на чардак. Калі ёсць адна цікавая старая рэч, гэта для нас азначае, што маем капальню старыны. І тады хтосьці з нас стараецца папасці на «гару», з гэтай гары ўжо выцягваем 4—5 экспанатаў.

Часам да нашай «Нысы» людзі самі прыносяць экспанаты, калі ўжо ўбачаць, якія «скарбы» ляжаць у нашай машыне.

А бывае і так, што трэба добра патаргавацца, каб штосьці ўзяць. У адной з мясцовасцей Беластоцкага павета муж аддаў нам прыладу да трапання ільну, а жонка не згаджалася на гэта. М. Лобачу прыйшлося разоў восем укладаць гэтыя прылады ў машыну. Урэшце гэтыя прылады ўсё ж трапілі ў музей.

Вось такім чынам мы сабралі ўжо каля 500 экспанатаў.

На заканчэнне хочам падкрэсліць, што бярэм экспанаты ў музей бясплатна. Наш музей грамадскі. (МЛ)

# НОВАЯ ПЛАСЦІНКА МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ

Не так даўно мы паведамлялі, што Міхась Забэйда-Суміцкі носіцца з намерам наспяваць новую доўгаграючую беларускую пласцінку. Днямі атрымалі мы з Прагі радасную вестку: у мінулым месяцы нарадзілася новая Забэйдава пласцінка. Як паведамляе нас спявак, рыхтаваўся ён да яе вельмі доўга. Трэба спадзявацца, што і тэхнічны бок пласцінкі будзе не менш дакладны. А вось песні, якія наспяваў Міхась Забэйда:

М. Аладаў: Сасонка (словы Я. Купала), Лета (сл. Я. Купала), Накцюрн (сл. П. Трус); П. Падкавыраў: Ходзіць дзеўчына па ваду (сл. А. Русак); А. Спаскі: Ноч (сл. М. Багдановіч); М. Чуркін: Ты прыдзі (сл. Я. Купала); А. Туранкоў: Бечар (сл. А. Гурло), Летам за парканы (сл. М. Танк), Лета (сл. Ф. Чарнушэвіч), Слуцкія ткачыхі (сл. М. Багдановіч); Маладыя гады (сл. М. Багдановіч); М. Забэйда: Ціха, так ціха (сл. М. Танк); В. Алоўнікаў: Па-над лесам панад борам (сл А. Русак), Гр. Пукст: Любы мой, прыдзі (сл. М. Машара); К. Галкоўскі: Ці грэх цябе любіць? (сл. Зм. Бядуля); А. Багатыроў: Пад цёмным ляском (сл. П. Глебка); К. Галкоўскі: Маладая Беларусь (сл. Я. Купала).

Варта зрабіць захады, каб гэта пласцінка знайшлася ў продажы і ў нашых магазінах. (рл)



**М. Забэйда-Суміцкі наспеўвае новую беларускую пласцінку.**
**Фота Яраслаў Зах. Прага 8.IX. 1967 г.**

# З ДЭКАНАМ Я. ГЕРБАМ АБ ВСІнж.

**Мгр інж. Яраслаў Герба з'яўляецца дэканам электрычнага факультэта Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку.** Паколькі многа моладзі Беласточчыны іменна тут працягвае навуку, мы звярнуліся з некалькімі пытаннямі да дэкана.

— Як выглядае плён сёлеташняга набору на ВСІнж., скажам, у параўнанні да мінулых год?

— Калі разыходзіцца аб мінулыя гады, дык трэба адкрыта сказаць, што найлепшая моладзь, якая здавала матуру, ішла перад усім у традыцыйныя вузы. Да нас ішла моладзь з т.зв. другога тура з сярэднімі ацэнкамі на пасведчаннях.

У гэтым годзе наступіла рашучая змена на лепшае. Упершыню на электрычны факультэт было з чаго выбіраць, напрыклад, на 60 месц было 230 кандыдатаў, з чаго экзамены здало 100 чалавек Многія з абсальвентаў, як і бацькоў, разачараваліся, таму што многія вучні нават з пяцёркамі не былі прыняты вучыцца ў традыцыйных вузах.

— Што раіце на будучыню абсальвентам беластоцкіх ліцэяў, якія будуць паступаць на вузы?

— Хацелася б раіць не толькі матурыстам, але і бацькам, выхаваўцам, дырэктарам. Справа ў тым, напрыклад, што званне магістра ў промысле ці будаўніцтве не мае ніякага значэння, ні ў заработках, ні ў кар'еры. А моладзь часта аб гэтым не ведае, мала таго, асмелюся сказаць, што не ведаюць часта і выхаваўцы. Таму неабходна кіраваць на будучыню да нас тых, хто хоча працаваць інжынерамі не маючы навуковых амбіцый. Зрэшты, перад абсальвентамі ВСІнж. навуковая кар'ера таксама адкрыта.

— Зразумела, ВСІнж. паклікана на тое, каб рыхтаваць інжынерскую кадру з Беласточчыны і Беласточчыне...

— ...а Беласток знаходзіцца ў цэнтры ваяводства, так што лягчэй даехаць да дому і калі трэба прывесці харчы ці таму падобныя рэчы. А гэта, на колькі мне вядома, вельмі істотная справа і студэнту, і бацькам, якія найчасцей фінансуюць яго навуку.

— Цікавіць нас лёс вашых абсальвентаў.

— Тэма надта шырокая і баюся, што на яе не адкажу, але пастараюся падаць некаторыя факты. Найбольш істотнай справай пачынаючага працу маладога інжынера з'яўляецца памяшканне. Моладзь наша на толькі знаходлівая, што ўжо зараз аб гэтым думае Многія з іх пазапісваліся ў «мешканёвыя спулдзельні» і практычна кажучы адначасова з дыпломам атрымоўваюць ключы да новых памяшканняў. Аб працы гаварыць не буду, таму што справа затруднення кадры з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй на Беласточчыне ўсюды выглядае добра.

— Што ў кантэксце вышэй сказанага можна сказаць аб вашых студэнтах выпускніках беларускіх ліцэяў?

— Мне цяжка будзе гаварыць аб гэтым, таму што мы такога падзелу не ўводзім. Гаварыць аб студэнтах магу толькі з электрычнага факультэта, а трэба адзначыць, што навука на гэтым факультэце найцяжэйшая. Маем добрых студэнтаў абсальвентаў бел. ліцэяў, як хаця б А. Парфенюк, маем сярэдніх і не зусім добрых, што з'яўляецца агульным для абсальвентаў амаль усіх школ. Хацелася б з задавальненнем падкрэсліць, што ў гэтым годзе тыя абсальвенты, якія здалі экзамены на наш факультэт, здавалі добра.

— Шчыра дзякуем за размову.

Размаўляў **А. Карпюк**

# Вялікая прэміяваная продаж

У днях ад 1 кастрычніка г.г. да 31 студзеня 1968 года ва ўсіх вясковых крамах на Беласточчыне адбываецца вялікая прэміяваная продаж прамысловых вырабаў. Пакупнік атрымоўвае **купон пры куплі наступных тавараў:** швейнай машыны, халадзільніка (апрача «Шрону Люкс», «Сілезіі» і з імпарту), віроўкі для сушкі бялізны, пыласоса краёвага вырабу, фратэркі, электрабрытвы, радыёпрыёмніка краёвага вырабу, таксама ручнога гадзінніка або фотаапарата, матацыкла, мотапеда, веласіпеда, фарфаравага сервізу за 800 зл., электрычнай духоўкі, грамафона, «прахоўца», плашча, фоліевага ўбрання, спадніцы і т.д.

28 лютага наступнага года адбудзецца лясаванне купонаў. Можна будзе выйграць такія рэчы, як: матацыкл ВСК, мотапед «Камар», халадзільнік «Іглу», швейную машыну «Лучнік», сціральную машыну, радыёпрыёмнік «Ірыс», веласіпед, пыласос «Электар», сушылку для валасоў, фотаапарат, прас, купон ваўнянай тканіны, ламінаваны плашч, артыліён, камплект жаночай бялізны, світар, скураны чамадан і т. д. Разам да разлясавання ёсць тавару на 100 тысяч злотых.

Падрабязныя інфармацыі абавязаны даваць кіраўнікі крамаў. Варта прыняць удзел у такім лясаванні, пры якім славутыя «знаёмствы» непатрэбны зусім. Лёс будзе лёсам. —Дай табе Бог шчасце! — сказала б мая цётка. (СЯ)




**ШТО НОВАГА?**

З Павятовай бібліятэкі з Гайнаўкі атрымалі мы 50 купонаў конкурсу. Гайнаўка разам даслала ўжо 295 купонаў.

**Што хто сказаў?**

**СЯРГЕЙ НІЧЫПАРУК:**
Залешаны, Гайнаўскі павет
гаспадар, 18 год.
**Прачытаў:**
**Я. Купала «Курган»**
**Я. Колас «Новая зямля»**
**З. Бядуля «Салавей»**

«Гэта зусім ясна, што творы мне падабаліся. Твораў, якія б мне не падабаліся, я ж бы не выбіраў! А падабаліся яны мне галоўна таму, што дзякуючы ім я мог пазнаць хараство беларускай літаратурнай мовы».

**ПЯТРО ЛУКАШУК**
Залешаны, Гайнаўскі павет.
гаспадар, 30 год.
**Прачытаў:**
**П. Броўка «Мір нам патрэбен»**
**М. Лынькоў «Васількі»**
**І. Гурскі «У агні»**

«Выбраныя творы спадабаліся мне за тое, што ў іх паказана змаганне беларускіх людзей за свабоду сваёй радзімы. У барацьбе гэтай неаднойчы прымалі ўдзел дзеці, якія гінулі часта, аддавалі маладое жыццё за радзіму».

**ЛЮБА ЛУКАШУК**
Залешаны, Гайнаўскі павет
гаспадыня, 40 год.
**Прачытала:**
**Я. Купала «Град»**
**Я. Колас «У палескай глушы»**
**З. Бядуля «Тры крыжыкі»**

«Гэтыя творы падабаліся мне таму, што ў іх паказана барацьба сялян з цемнатой вёскі. Дамагаюцца яны вучобы сваім дзецям і ўнукам. Каб кожны грамадзянін умеў пісаць і здабываць веды і прафесію».

**ВАЛЯ БАРШЧЭЎСКАЯ**
Залешаны, Гайнаўскі павет
на вёсцы, 16 год
**Прачытала:**
**Я. Купала «Курган»**
**Я. Колас «У палескай глушы»**
**З. Бядуля «Салавей»**

«Творы падабаліся таму, што ў іх паказана хараство і прывязанасць да роднай зямлі, а людзі — простыя сяляне стараюцца бараніцца перад панамі».

**ГАЎРЫЛА САХАРЧУК**
Залешаны, Гайнаўскі павет
гаспадар, 30 год
**Прачытаў:**
**Я. Купала «Паэмы»**
**К. Чорны «Бацькаўшчына»**
**Я. Колас «На прасторах жыцця»**

«Чытаючы гэтыя творы, уяўляеш сабе хараство беларускай прыроды і адчуваеш прывязанасць да роднай зямлі».

**УЛАДЗІМІР ХАРКЕВІЧ**
Белавежа
Міліцыянер, 24 гады
**Прачытаў:**
**А. Русак «Толькі з табою»**
**К. Чорны «Апавяданні»**
**М. Ткачоў «Згуртаванасць»**

«Падабаюцца мне гэтыя творы за прыгожае апісанне беларускай зямлі і характару беларускага народа».

 

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

## БАБРЫ ЗА РАБОТАЙ

Сёння я, нарэшце, убачыў баброў за работай.

Яшчэ раніцай мы з Аляшкевічам дамовіліся, што паплывём увечары на лодцы па Вярэзіне, уніз ад Сергучоўскага канала, да возера Палік, паглядзець, як працуюць бабры. У падарожжа мы выбраліся каля дзевятай гадзіны вечара.

Дзейнасць баброў пачынаецца, як вядома, пасля захаду сонца. У верасні найбольшую актыўнасць яны праяўляюць з дзевяці гадзін вечара да другой гадзіны ночы. У свае хаткі бабры вяртаюцца пасля кармёжкі і будаўнічай працы адзін за адным, прыблізна ў пяць-шэсць гадзін раніцы.

Ноч абяцала быць ціхай і светлай.

Спачатку мы карысталіся вёсламі. Веславалі мерна і спакойна, па аднаму вяслу з кожнага боку. Потым, каб не рабіць лішняга шуму і не палохаць баброў, зусім перасталі весляваць.

Ветру няма. Ля самага берага растуць вольхі і вербы.

Наша лёгкая лодка павольна, ледзь прыкметна пасоўваецца ўніз па плыні ракі. Яна нібы слізгае па чорнай, глыбокай вадзе. Вёслы ляжаць на дне, мы іх не чапаем. Сядзім моўчкі і не варушымся, плывём уздоўж берага.

З левага борта* густы лазняк. Справа — шырокая балоцістая пойма. Звілістая рака робіць тут паварот.

Аляшкевіч асцярожна схапіўся за чорную галіну, якая вытыркаецца з берага, і бясшумна падцягвае лодку ў невялікую затоку, амаль з усіх бакоў замаскіраваную кустамі лазняку.

Лодка спынілася. Тонкія гнуткія галінкі скрыжоўваюцца над нашымі галовамі.

З-за тоўстага ствала старой вярбы, якая схілілася над вадой, добра відаць даволі шырокі плёс, асветлены месяцам. Плёс знаходзіцца ад нас метраў за пяць-шэсць.

Адсюль будзе зручна наглядаць за бабрамі.

Вакол чарнеюць сілуэты дрэў і кустоў.

У пасярэбранай святлом месяца вадзе многа гарлачыкаў.

З боку плёса даносіцца аднастайны характэрны гук, нібы нехта скрабе шпарка і моцна нечым вострым па дрэве. Уражанне такое, быццам штосьці грызе вялікі пацук.

У вільготным начным паветры гэты гук, шоргат ці скрогат, не ведаю, як яго назваць, далёка разносіцца над ракой. Мы пачулі яго задоўга да таго, як ціха падплылі да свайго сховішча. Цяпер ён на момант спыніўся, каб праз некалькі хвілін аднавіцца з новай сілай.

Якім чароўным і прывабным здаваўся мне гэты дзіўны гук!

Вочы мае прывыклі да рэзкага кантрасту паміж халодным серабрыстым святлом месяца і густымі, чорнымі ценямі. Я пачаў выразней разбірацца ў навакольных прадметах, адрозніваць іх, заўважаць асобныя дэталі.

Напружана ўглядаючыся ў асветленую месяцам паверхню плёса, у абрысы супрацьлеглага невысокага берага. Нарэшце я заўважыў цёмную постаць бабра.

«Вось ён!..» — ледзь не крыкнуў я, але стрымаўся.

Кульгаючы з боку на бок, бабёр капошыцца каля дрэва. Пляскаты хвост яго валочыцца па траве, паварочваецца ў розныя бакі.

Бабёр узняўся на заднія лапы, абапіраючыся на хвост. Кароткімі пярэднімі лапкамі ён ухапіўся за ствол маладой асіны. І адразу зноў пачуўся характэрны гук пілавання разцамі па дрэву.

Толькі цяпер я заўважыў, што бабёр не адзін. Каля яго заварушылася постаць другога бабра. Ён узяўся за ствол з другога боку.

Прайшло некалькі хвілін.

У начным паветры пачуўся гучны трэск. Дрэва пачало хіліцца ў бок ракі.

Бабры спынілі работу. Прыслухаліся. Трэск паўтарыўся. Абодва бабры адскочылі ад ствала.

Яшчэ праз хвіліну дрэва захісталася, зашумела галлём і, падмінаючы лазняк і маленькія бярозкі на беразе, рухнула ў ваду.

Сонная рака ўскалыхнулася. Пырскі ляцяць ва ўсе бакі.

Увесь гэты шум нібы спалохаў баброў. А можа, яны пачулі Аляшкевіча, які кашлянуў у гэты момант.

Першы з баброў цяжка і нязграбна заскакаў у бок берага. Ля самай вады ён агледзеўся па баках, засіпеў і кінуўся ў раку галавою ўніз. Хвост яго мільгануў над берагам і з сілай пляснуў па вадзе. Гук ад удару разнёсся далёка па наваколлю.

Бабёр знік пад вадой. І адразу на паверхні ракі з'явілася і хутка разышлася серабрыстая дарожка дробных бурбалак. Гэта было паветра, якое бабёр выдыхнуў з лёгкіх, плывучы пад вадой.

Дзе падзеўся другі бабёр, я заўважыць не паспеў, але і яго на беразе ўжо не было. Мне здалося, што ён знік у траве, каля самай вады.

**Віталі Вольскі**

**(Працяг у наступным нумары)**

**(Працяг са стар. 1)**




— Зачыніць ты іх у каталашку, а заўтра адставім у турму.

— Прасціце нам, ваша благародззе! — праз слёзы прашу я, а пан гэты як не заверашчыць:

— Я для вас, хамы праклятыя, ніякае там благароддзе, а **прывасхадзіцельства, вашае прывасхадзіцельства**, чуеце!?

Са страху пападалі мы на калені, але і гэта не памагло. Замкнулі нас у нейкай вазоўні. Ноччу вылезлі мы праз дах і спусціліся на вяроўках ды ўцяклі да свайго абозу. Аўса аднак пану не даравалі. Прывалаклі па два снапы і іншым яшчэ паказалі дарогу да яго. Да раніцы бежанцы ўвесь стог «яго прывасхадзіцельства» разабралі.

Праз пару дзён дабраліся мы ў Баранавічы, а там бежанцы па тры і чатыры тыдні чакалі ўжо на цягнікі. Людзей і коней толькі, што пальца не ўваткнуць. Што ж было рабіць? Паехалі далей на конях, дабраліся ў Бабруйск і там тое самае. Дык зноў яшчэ далей — у Раслаўль на Дняпру. Там нарэшце паабяцалі нам вагоны. Прышлося пакінуць і вазы і коні. Мала каму ўдалося штоколеч прадаць і то за капейкі. Адправілі нас аж у Азію — за Ташкент, у горад Каканд. Па чатыры — шэсць сем'яў у адным таварным вагоне. Хіба з месяц часу ехалі мы праз пясок і пустыню, без вады і галодныя, а гарачынь стаяла такая, як у печцы пасля пячэння хлеба. Ды зараза пайшла страшная. Людзі гінулі напавал, а найбольш дзеці.

— Выбачайце, я вас прасіў расказаць пра рэвалюцыю.

— Прышлося, а як жа паваяваць і за рэвалюцыю, амаль на ўсіх франтах. Пяць год служыў я чырвонаармейцам, спачатку ў Маскве. Крэмль штурмам браў. Што вы думаеце, калі наш народ, значыць бежанцы, столькі перацярпеў бяды і гора, дык не шкадаваў цара бацюшкі і ўсялякіх буржуяў. Калі хочаце, то іншым разам раскажу вам, як гэта было.

**Віктар Рудчык**

**СЦЕРАЖЫ ПРЫРОДУ**

## ПТУШКІ І ЎРАДЖАЙ



Справы аховы прыроды выглядаюць у нас проста страшэнна! Людзям здаецца, што якісьці там дзівак у міністэрстве выдумаў садзіць дрэвы пры дарозе, чапляць шпакоўні птушкам. Людзі кажуць: усё гэта добрая рэч, бо і цянёк будзе летам пры дарозе, і птушкам будзе дзе паспяваць — але няхай зоймуцца гэтым дзеці. І дзеці займаюцца. Найчасцей, пры агітацыі настаўнікаў.

Дарослым не прыходзіць у галаву тое, што такая шпакоўня ці дрэва ў полі маюць вялікае значэнне для іх гаспадарак. Дарослым не прыходзіць у галаву тое, што гэтымі справамі павінны заняцца, перад усім, яны — гэта значыць гаспадары. Зараз выясню, чаму маю столькі жалю да неразважлівасці дарослых.

Наша сельская гаспадарка з году ў год нясе велізарныя страты ад шкоднікаў палёў. Гэтыя страты дасягаюць нярэдка чацвёртай, а нават трэцяй часткі ўраджаяў! Усялякія жукі, машкары, чэрві і пустазелле нішчаць цяжкую працу нашых рук. Хтосьці можа сказаць, што даволі ўжыць на палях хімічныя сродкі, каб вытруціць усю гэту «стонку». Практыка паказала аднак, што «стонка» даволі хутка прызвычаілася да гэтакай хімічнай атруты на яе. Ужо ў сваім трыццатым пакаленні перастае зусім рэагаваць яна на апырскванне палёў «азатоксамі». Жыве і развіваецца, плодзіцца несамавіта хутка. Так сталася ў Чэхаславакіі, а значна раней — у Заходняй Еўропе. У Польшчы «стонка» дасягне трыццатага пакалення праз два-тры гады. І што будзе далей?

Гэтаксама больш-менш вытрымалымі на хімічную атруту робяцца і іншыя шкоднікі. А гэта абазначае, што не ўдасца зваяваць шкоднікаў чалавечымі спосабамі, спосабамі выдуманымі чалавекам. Адзіна слушнае выйсце з гэтай невясёлай сітуацыі знаходзіцца ў тым, каб ужыць натуральныя магчымасці ў барацьбе са шкоднікамі. Такімі натуральнымі магчымасцямі, значыць натуральнымі ворагамі шкоднікаў з'яўляюцца птушкі. Нашы галкі і гракі, шпакі і курапаткі маюць вельмі вялікі апетыт на ўсялякія жукі, чэрві і т.д. Напрыклад, курапаткі надта любяць «стонку» і паядаюць яе несамавіта многа. Заходняя Еўропа і бароніцца перад «стонкаю» тым, што забараняецца там наогул паляваць на курапаткі. Нашы крыклівыя галкі ў час ворыва ідуць услед за плугам: яны выядаюць чарвякоў і іншых шкоднікаў зямлі, збожжа.

Птушкі даюць вялікую карысць, і шаленец той, хто скідае з дрэў іх гнёзды, праганяе іх за ваколіцу. Зімою трэба ратаваць птушак ад галоднай смерці, высыпаць ім хаця атрушын.

Маем ужо восень і апусцелыя палі. Давайце прыгледзімся да нашых палёў. Няцяжка будзе заўважыць, як мала расце дрэў у нашых палетках, мала кустоў, дзе маглі б вясціся птушкі, віць сабе гнёзды, ды шукаць для спажывы шкоднікаў блізкіх палосак. У запалянскіх вёсках птушкі вядуцца пасярод вясковых дрэў і хат. Злятаюцца да вёскі. Таму не часта бачым іх у далёкіх палетках. Давайце будзем садзіць дрэвы і кусты на абложных кавалках пасярод палёў. Гэткая пасадка напэўна аплаціцца — і будуць мець месца хавацца курапаткі ў час рухлівага ды галаслівага жніва.

Надыйшла восень — можна садзіць.

Ужыванне хімічных сродкаў, рэч надта небяспечная. Мала таго, што можна самому атруціцца. Труцім пчол, чмялёў, без якіх немагчымы высокі ўраджай не толькі ў садах, але і на палях, дзе растуць культуры, патрабуючыя апылення. Труцім і птушак. Напрыклад, шчыгол. Яго ядою з'яўляецца насенне ўсялякага пустазелля і са смакавітай улюбёнасцю паядае ён, перад усім, насенне чортапалоху. Таму, чаму мы маем не дапамагчы ў размнажэнні шчыглоў, ствараючы выспы кустоў і дрэў на сваіх палях. Ляжыць цяпер столькі нікому непатрэбнай зямлі... Тое самае датычыць птушкі, званай, канаплянкаю. Ці ўдодаў, ці сівагракаў. А, скажу для прыкладу, што адзін вывадак сініцы з'ядае ў год каля сямідзесяці пяці кілаграмаў усялякіх чэрвяў. Шпак паядае за дзень каля тысячы чатырыста штук вусеняў і іншых шкоднікаў.

Словам, без дрэў няма птушак, а без птушак няма штораз лепшых ураджаяў. Трэба пачынаць ад восені, гэта значыць ад пасадкі дрэў.

(СЯ)

# МАЕ ЗНАЁМСТВЫ СА СЛЯПЦОМ ФЁДАРАМ



**(Працяг са стар. 1)**

у руку дваццацізалатоўку і гаварыў сваю бяду: «памаліцеся за Івана», «памаліцеся за Колю, што ў войску», «у мяне дачка непаслухмяная», «у мяне муж хворы», «у мяне карова малако даваць перастала» і гд. і гд. Федзя спраўляўся хутка, адну асобу абслужваў на працягу 2—3 мінут. А працаваў усю ноч і цэлы дзень. Колькі за гэты час мог зарабіць 20-цізалатовак, хай палічаць лепшыя ад мяне матэматыкі.

Вернемся аднак да майго візіта ў Федзевай хаце. Бо толькі тады маючы многа часу да гутаркі з «празорліўцам» мог я добра ўявіць спосабы, якімі паслугоўваецца ён у сваёй «працы».

Прашу сабе прытым уявіць гэтую сцэну: невялікая, убогая і цёмная кухня, у якой усё магчымае да выкарыстання месца абвешана іконамі (налічыў я тут каля 70 іконаў). Пад сцяною ложак, на якім сядзіць саракагадовы мужчына — сляпец Фёдар. У другім канцы кухні сяджу я — журналіст «Нівы». Ігра паміж намі простая. Стараемся адзін другога, як кажуць, «вывесці ў поле», ашукаць. Мая перавага толькі ў тым, што я аб намерах майго субяседніка ведаю крыху больш, чымсьці ён аб маіх.

Федзя пачынае свой сеанс. Абмацвае мае мускулы на руках, потым дае мне прачытаць тэкст з «Евангелія». Разумею: разыходзіцца аб першы сонд адносна маёй адукацыі і прафесіі. Мускулы мае вялікія, затое вершы «Евангеліі» ляцяць лёгка і плаўна. Федзя здзіўляецца.

— Ну, так, цудна чытаеш! Колькі маеш школы?

— Дзесяць класаў, — ілгу.

— Дзе працуеш?

— «Ужэнднікам» у бюры, — ілгу надалей.

— Ага, а пры чым там працуеш?

— Бухгалтарам у «бюры», — гавару першае, што прышло ў голаву.

— Ага, добра, цяпер «парассуджаем»:

І тут пачынаецца ўласцівая гадальная цырымонія.

Федзя бярэ нейкую ікону, водзіць сабе перад носам ды гаворыць:

— Сказана, што табе нехта ўкраў нейкія паперы і на цябе зваліў віну. Было такое нешта?

— Не прыпамінаю, — прызнаюся шчыра.

— Тады можа парваў, або заліў чарнілам, ці нешта такое? А можа, дзе так папераварочваў.

— **Можа і папераварочваў,** — згаджаюся, каб не затрымліваць далейшага гадання.

— Сказана, — пачынае ізноў «празорлівец», — што ты недзе ўпаў у ваду і тапіўся. Было так?

— Не, я ніколі не тапіўся, — адказваю па-праўдзе.

— Дык можа недзе лёд пад табою праламаўся?

— І лёд не ламаўся.

— Дык можа недзе ў снег уваліўся?

— Ну, у снезе дык праўда, час ад часу валяўся.

— Сказана, што цябе калісьці хлопцы моцна на забаве пабілі.

І тут Федзя не ўтрапіў. У маладосці не належаў я ні да адважных, ні да задзёрлівых.

— Ну, дык хацелі пабіць.

— Можа і хацелі, чорт іх ведае.

— Табе калісь многа грошай укралі.

— Многа грошай я не меў ніколі.

— Ну, дык хацелі ўкрасці, але ім не ўдалося.



 

# СЯРГЕЙ РАМАНЧУК

Сялянам найбольшыя карысці і найбольшыя даходы прыносіць жывёлагадоўля. Кожны гаспадар, кожная гаспадыня з вялікай клапатлівасцю адносіцца да свайго дабытку. І калі захварэе конь, карова, або іншая жывёла, у кожнай хаце шмат трывогі.

У такіх выпадках сяляне звяртаюцца да лекара ветэрынара, які ратуе жывёлу ад падзення, гэта значыць ад стратаў у гаспадарцы.

Сяргей Раманчук узначальвае ветэрынарную лячэбніцу ў Нараўцы, тут яго амаль заўсёды можна ўбачыць у час працы. Сюды прыводзяць або прывозяць жывёлу з адлеглых вёсак або просяць яго, каб ён сам паехаў на месца з парадаю і дапамогаю. Праца яго не замыкаецца ў акрэсленыя службовыя гадзіны. Да яго прыходзяць да хаты і вечарам, ноччу, у нядзелю ці свята і просяць, каб ехаў на ратунак жывёлы. І ён сядае на свой матацыкл і едзе. А вось некалькі прыкладаў. Зімой мінулага года ў Масеве ў Вацлава Буйкі несцялілася карова. Не жыло ўжо цяля. Пагражала смерць і для двухгадовай дароднай каровы. Ужо ў вёсцы многія сказалі, што нічога не будзе што выканчыцца карова і раілі гаспадару дарэзаць яе. Аб гэтым паведамілі Сяргея Раманчука. Ён прыехаў і правёў даволі складаную аперацыю. Ва ўлонні каровы парэзаў на часткі цяля і дастаў яго. Аказалася, што цяля было незвычайна вялікае. Карова да сённяшняга дня жыве і зусім здаровая.

А вось зноў са Збуча прыехала адна сям'я на хрысціны ў Семяноўку. І тут іх кабыла ў нагу ўбіла жэрдку, так што сарвалася скура і мяса і тырчэлі голыя косці. Сяргей Раманчук тут зноў правёў складаную аперацыю. Шэсць тыдняў апекаваўся скалечанай кабылай. Гаспадар не мог аддзякавацца Раманчуку за вылячэнне кабылы. Добры конь каштуе каля 20-ці тысяч злотых — гэта ж не жарты.

І калі гэты чалавек аддаваў сваю дачку замуж, лекар Сяргей Раманчук на вяселлі ў яго быў першым госцем.

Сяргей Раманчук апякуецца 40 вёскамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі грамад: Нараўкі, Старога Ляўкова і Семяноўкі. Тут сяляне гадуюць шмат авечак. Але авечкі гэтыя дрэнных гатункаў, дробныя і малаваўністыя. Вось таму ён стаў намагацца, каб завесці ў гэтым раёне мерыносы, якія славяцца і высокаякаснай воўнай і растуць даволі вялікія. Каб даць прыклад аднавяскоўцам, сам першы набыў барана мерыноса, а ў Луцэ дабіўся таго, каб да вясковага стада авечак увесці 10 мерыносаў. Для ўсіх «дзікіх расплоднікаў» правёў кастрацыю. Падобныя пачынанні зроблены і ў іншых вёсках. Ужо значна ў гэтых вёсках змяніўся гатунак авец.

У чэрвені ў вёсцы Лясная выбух памор курэй. Быў ён таксама перанесены і ў Альхоўку. Лекару Сяргею Раманчуку прышлося шмат папрацаваць, каб гэтую хваробу ліквідаваць і не дапусціць, каб перанеслася яна ў іншыя вёскі.

У гэтым годзе праводзілася ў Гайнаўскім павеце адтуберкулёзванне кароў, а зараз зноў запабягаецца захворванню свіней на чырвонку пры дапамозе спецыяльных уколаў.

Ужо нават на аснове гэтых прыведзеных фактаў можам сабе ўявіць аграмаднасць працы, яе адказнасць і значэнне для развіцця жывёлагадоўлі, якая прыносіць і сялянам і дзяржаве аграмадныя карысці.

Сяргей Раманчук свае абавязкі выконвае з сумленнасцю і вялікай ахвярнасцю. А калі да гэтага дабавіць тое, што з'яўляецца ён чалавекам высокай культуры і незвычайна добрым характарам, дык тады ўжо можна не здзіўляцца, што ў гэтым раёне аб ім вельмі добра выказваюцца жыхары вёсак.

Сяргей Раманчук з'яўляецца таксама актыўным дзеячам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Ён супольна са сваёй жонкай Тамарай (яна настаўніца) былі арганізатарамі драматычнага гуртка ў Альхоўцы, які не раз на павятовым аглядзе мастацкіх калектываў Гайнаўшчыны займаў адно з першых месц. Альхоўскі драмгурток з беларускім словам выступаў і ў многіх вёсках у раёне Нараўкі.

**М. Хмялеўскі**



**Сяргей Раманчук даследуе каня Пятра Стоцкага з Міклашэва.** Фота аўтара

Чаму не, злодзеяў, якія хацелі б абакрасці, ёсць многа.

— Калісь цябе адна дзяўчына моцна кахала.

— Ого, го! Каго з нас не кахалі!

— І ты баяўся, каб не мець з ёю дзіцяці, — пачынае зноў Федзя груба і недалікатна.

Сеанс прадаўжаецца.

Не ўсе аднак Федзевы справы так бясшкодныя і пацешныя, як размова з журналістам «Нівы». У след за мною ў «кабінет» сляпца ўвайшла жанчына гадоў каля 30 з хвораю на эпілепсію дачушкаю. Жанчына пераконана, што прычынаю хваробы дзяўчынкі з'яўляецца тое, што яна, маці шмат гадоў таму назад аднойчы нешта непрыстойнае сказала аб сляпцу. Цяпер ездзіць у Чаромуху, прывозіць Федзі розныя «падаркі», каб перапрасіць яго за свой «грэх».

Кім тады з'яўляецца сляпец Фёдар? Нельга яго залічыць да традыцыйных народных знахараў, шчырых і на свой спосаб сімпатычных, якія стараюцца вядомымі ім, часам дзіўнымі, спосабамі дапамагаць аднавяскоўцам. Не належыць Федзя і да містыкаў, рэлігійных людзей, якіх таксама можна знайсці ў нашых вёсках, якія аднак у сваёй рэлігійнасці не шукаюць матэрыяльнай карысці. У сваім гадальным метадзе сляпец Фёдар — гэта проста «цыган»; стараецца маніць тыпова цыганскім спосабам, гаворачы кожнаму аб рэчах, якія кожнаму ў жыцці, з большай ці меншай праўдападобнасцю маглі калісьці здарыцца. Розніца толькі ў тым, што цыганкі робяць гэта значна больш цікава, інтэлігентна і далікатна.

Мае аднак Федзя адну перавагу над цыганкамі і ўсялякімі іншымі гадальнікамі — гэта яго калецтва. На калекаў, сляпцоў прызвычаіліся мы глядзець, як на людзей справядлівых і няшчасных, амаль «святых». Шануйма людзей нешчаслівых і калек, стараймася іх пацешыць і дапамагчы ім, але не забывайма, што і між імі, як і ўсюды на свеце, ёсць звычайныя «жулікі» і ашуканцы, якія нават сваё калецтва выкарыстоўваюць для ашукоўвання іншых.

**Ул. Паўлючук**






## УПЛЫЎ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

Землі палачан, дрыгавічоў і радзімічаў, якія ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, ад XIV стагоддзя сталі ўсюды называцца Беларуссю, а іх жыхары — беларусамі.

Беларусь была ядром Вялікага Княства Літоўскага. У параўнанні з іншымі вакоіцамі гэтай дзяржавы яна была найгусцей заселена людзьмі і мела найвышэй развітую сельскую гаспадарку, рамяство і гандаль. Узровень культуры ў Беларусі быў таксама высокі. Існавалі і развіваліся вялікія і багатыя гарады. Да іх належалі такія выдатныя гандлёвыя, палітычныя і культурныя цэнтры, як Полацк, Віцебск, Мінск, Тураў, Пінск, Берасце, Гродна з высока развітымі рамёствамі, будаўніцтвам, мастацтвам і кніжным пісьменствам.

Гаспадарчы і культурны ўзровень літоўцаў быў значна ніжэйшы ад узроўню беларускага насельніцтва. Літоўцы не мелі такой высока развітай сельскай гаспадаркі, рамяства, гандлю і будаўніцтва. Яны не мелі яшчэ свайго пісьма, замацаваных на пісьме законаў права. Літоўцы былі яшчэ язычнікамі.

Таму літоўцы не толькі не змянялі ў Беларусі гаспадарчага і культурнага жыцця, мясцовых звычаяў, традыцый і мовы, але і самі трапілі пад уплыў больш развітай на Беларусі гаспадаркі і культуры. З цягам часу многія літоўскія князі, баяры і дружыннікі ўвайшлі ў сваяцтва з мясцовымі князямі, баярамі і дружыннікамі, прынялі іх культуру, звычаі, мову і праваслаўную рэлігію.

Паволі, але няспынна развівалася на Беларусі сельская гаспадарка. Сяляне гадавалі шмат дабытку, а гэта дазваляла на большае ўгнойванне раллі, што павялічвала ўраджай. Апрача збожжа вырошчвалася шмат ільну іканопляў, шырока распаўсюдзілася сеянне грэчкі. Колькасць ворыўнай зямлі павялічвалася за кошт выпальвання і выкарчоўвання лесу. Штораз болей збожжа і сельскагаспадарчых прадуктаў вандравала на торг для абмену на рамесніцкія вырабы або на прадажу.

У гарадах развівалася і дасканалілася рамяство. Старыя гарады разрасталіся, паўставалі новыя. Апрача царкоўнага будаўніцтва наступіў росквіт будаўніцтва замкаў князёў і іншых багатых феадалаў. Развіваліся жывапіс, разьба ў дрэве і камені, выраб мастацкай абліцоўкі да мураваных пабудоў, шкла.

Адразу пасля ўваходу беларускіх зямель у склад Вялікага Княства Літоўскага ўнутраны і знешні гандаль развіваўся слаба. Перашкаджалі яго развіццю ўнутраны неспакой у Вялікім Княстве Літоўскім і яго працяглыя войны супроць нямецкіх захопнікаў.

У XV стагоддзі скалаліся больш спрыяльныя ўмовы для развіцця ўнутранага гандлю паміж гарадамі Вялікага Княства. Гэтаму садзейнічала ліквідацыя ўнутранага падзелу дзяржавы на паасобныя княствы. Хутка і шырока разгортваўся гандаль беларускіх купцоў з рускімі і польскімі гарадамі. Сярод феадалаў узрастаў попыт на замежныя дарагія вырабы і прадукты.

Разам з тым, як крэпла і ўмацоўвалася Вялікае Княства Літоўскае, пашыраліся яго палітычныя і культурныя зносіны з еўрапейскімі краінамі. Гэта спрыяла далейшаму развіццю культуры ў Вялікім Княстве.

*ПЫТАННІ:*

*1. Чаму літоўскія захопнікі прынялі беларускую культуру і звычаі?*

*2. Як развівалася гаспадарчае і культурнае жыццё Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага?*

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЗЛАЧЫНСТВЫ НЕМЦАЎ

Немцы для нашай ваколіцы прынеслі многа знішчэнняў і біды. З Ляўкова вывезлі яны ў Германію на цяжкія работы многа моладзі. Многія з яе не вярнуліся. Жыхараў вёскі выгналі ў Беласток. Гаспадарам, якія жылі на калёніі, адбіралі жывёлу, а потым падпальвалі клуні і хлявы.

У ляску непадалёк вёскі Людвінова расстралялі 18 маладых людзей. Перад тым прымусілі іх выкапаць сабе яму. У Капітаншчыне аднойчы немцы спаткалі 3-х партызан. На аднаго напусцілі сабаку — раненага павесілі. Двух расстралялі. Тут немцы за супрацоўніцтва з партызанамі мелі расстраляць усіх жыхараў. Смяротны прыгавор нейкім цудам удалося адмяніць толькі солтысу Кастусю Паўлоўскаму з вёскі Ахрымы.

Жыхараў Бернацкага Маста перасялілі ў Анцуты, а вёску спалілі.

Жыхараў Лазовае выселілі пачаткова ў Новае Ляўкова, а пасля загадалі ім выязджаць у Беласток.

У Старым Ляўкове расстралялі трох хлопцаў: Я. Рэента, Л. Зялінскага і М. Шпака. Ад смерці выратаваліся: Герасім Дрэўноўскі і Юлій Харкевіч. Усіх хлопцаў нехта выдаў, што быццам супрацоўнічалі з партызанскім атрадам.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## УРАЧЫСТАЯ ВЕЧАРЫНА

Урачыстую вечарыну прысвечаную 50 гадавіне Вялікага Кастрычніка, якая адбылася 30 верасня ў школе ў Ляшуках (Гайнаўскі павет), сарганізаваў Гайнаўскі аддзел БГКТ.

На самым пачатку, у 17[30] гадзін, гайнаўскія самадзейнікі са сваім кіраўніком Віктарам Макацам выступілі з артыстычнай праграмай. На яе склаліся між іншым дэкламацыі вершаў (дэкламавалі верш Маякоўскага «Партбілет»), песні, народныя мелодыі.

Спявалі гайнаўскія салісткі: Аня Сухадола, Люба Куптэль і 11-асабовы хор.

На акардэоне ігралі: Віктар Макац і Вася Піўнік. У праграме былі і скетчы «Ідэальны муж» і «Ідэальная жонка». Цэласць мастацкай праграмы вёў Сяргей Сац.

У між часе артыстычнай часткі адбыўся конкурс пад загалоўкам «Вялікі Кастрычнік і я». Пераможцам былі ўручаны кніжныя ўзнагароды.

Пасля мастацкай часткі гайнаўскі аркестр (Віктар Макац, Вася Піўнік і Генік Станіслаўчык) іграў да позніх гадзін ночы. Моладзь і старэйшыя, якія тут тлумна сабраліся, гулялі да позняй ночы.

Жыхары Ляшукоў і адлеглых акалічных вёсак вельмі ўдзячны за цікавую вечарыну Гайнаўскаму аддзелу БГКТ.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## ПАРТСХОДЫ

У грамадзе Юшкаў Груд (Беластоцкі павет) існуе 11 партыйных арганізацый. Ва ўсіх арганізацыях адбыліся ўжо сходы, на якіх былі абмеркаваны справы звязаныя з абменам партыйных білетаў. Ужо запоўнены рэестрацыйныя анкеты і далучаны да іх па дзве фотакартачкі. Зараз зноў адбываюцца сходы, на якіх праводзіцца ацэнка працы паасобных членаў партыі. (мх)

## ГАЗЕТНЫЯ КІЁСКІ

Нядаўна ў вёсцы Ялёнка (Гайнаўскі павет) адкрыты газетны кіёск. Працаўніком кіёску з'яўляецца Аляксей Пракапюк.

Існуе таксама газетны кіёск і ў суседняй вёсцы Грабавец. Гэтыя крамікі вельмі патрэбныя, таму што людзі тут вельмі цікавяцца газетамі і часопісамі.

**Мікола Панфілюк**




**Дарагое Сэрцайка!**

Закончыла я дзевяты клас агульнаадукацыйнага ліцэя. Цяпер хацела б вучыцца карэспандэнцыйна. Вельмі прашу цябе, Сэрцайка, паінфармуй, ці ў Беластоку ёсць карэспандэнцыйны агульнаадукацыйны ліцэй, ці мо школа ральнічая, дзе я магла б далей вучыцца. Прашу цябе, адкажы як найхутчэй. Буду вельмі табе ўдзячна.

**Марыся**
з Бельскага павета

**Дарагая Марыся!**

Вельмі добра, што ты хочаш вучыцца далей. Жывучы на вёсцы, можаш памагаць бацькам на гаспадарцы і адначасова вучыцца ў карэспандэнцыйнай школе. Аднак у гэтым годзе ў карэспандэнцыйны ліцэй ужо паступіць нельга, таму што позна. Можаш аднак паступіць у карэспандэнцыйны сельскагаспадарчы тэхнікум у Беластоку. А вось адрас:

Technikum Rolnicze, — wydział korespondencyjny, Białystok — Dojlidy Fabryczne 26.

Трэба скласці ўсе патрэбныя дакументы, як у кожную іншую школу, трэба таксама мець 18 год і працаваць на гаспадарцы (у бацькоў). Калі маеш усё гэта, дык прымуць цябе на 4 семестр, г.зн. на другое паўгоддзе дзевятага класа. Дакументы можна прыслаць заказным пісьмом або прывезці асабіста ў школу.

Жадаю поспехаў.
Сэрцайка.

## ПАЧАЎСЯ...



**Жаночая харавая група.**

30-га верасня ў клубе ў Крывой адбылося адкрыццё новага культурнага года ў Бельскім павеце. У гэтай урачыстасці ўзялі ўдзел кіраўнікі святліц, клубаў «Рух» і ГС, а таксама дзеячы культуры з павета.

Пасля афіцыйнай часткі выступіў мясцовы мастацкі калектыў.

Тэкст і фота: **П. Зінкевіч**
Бельск Падляшскі

## НА ВОЛЬНЫМ ПАВЕТРЫ



Незадоўга надыдзе зіма. Таму хвіліны асенняй сонечнай пагоды выкарыстоўваюцца ў школах на заняткі на вольным паветры.

На здымку: вучні III класа пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім на занятках пад кіраўніцтвам Зоі Бусловіч.

Тэкст і фота Ю. Рыбінскі

## ВЕЛАСІПЕДАМ У ШКОЛУ



**У вёсцы Тарнопаль (Гайнаўшчына) толькі чатырохкласная школа. У старэйшыя класы дзеці ходзяць, а дакладна кажучы, ездзяць на веласіпедах у школу ў Луцэ і Семяноўцы.**

Фота: **М. Хмялеўскі**

## ПАМАГАЮЦЬ?

Вёска Стрыкі на Бельшчыне, як і многа іншых, адчувае недахоп рабочай сілы, таму што маладыя людзі ўцякаюць з гаспадаркі. З дапамогаю старым людзям у апрацоўцы зямлі прыходзяць сельскагаспадарчыя гурткі. Жыхары Стрыкоў вельмі ўцешыліся, калі ў іх вёсцы арганізаваўся такі гурток. Толькі наш селянін не заўсёды хоча прылажыць руку да добрай справы. Так вось у Стрыках ёсць зараз гурток, але ў яго многія не запісаліся. Кіраўніцтва гуртка: Максім Красоўскі, Васіль Казлоўскі і іншыя сваю ролю ў развіцці сельскай гаспадаркі зразумелі кепска. На сваім пасяджэнні па прапанове Івана Шымковіча рашылі даваць машыны толькі членам гуртка. Хто не з'яўляецца членам, той наймае машыны ў суседніх сельскагаспадарчых гуртках. Мне здаецца, калі адна капачка не можа выкапаць бульбы для ўсяе вёскі (83 гаспадаркі), дык трэба ўзяць яшчэ дзве або пяць. З іншымі машынамі справа падобная. Гуртkoўцы жнуць збожжа машынамі, а ўдава Марыя Кардзюкевіч сярпом. А можа гурткоўцы думаюць, што гэта іх уласныя машыны?

**Зямляк**
Бельскі павет

---

Шэф гестапа зрабіў памылку — ён не патрапіў стрымаць сябе. Стрымайся ён — і хто ведае, як пайшлі б далейшыя падзеі. Адпусці ён Траўба, пастаў ён за ім назіранне, працягні ад яго сувязі да Трампчынскага, Сівога, Віхра — ніхто не ведае, як склаўся б далейшы лёс Кракава. Але ён не стрымаўся. Ён ударыў Траўба кулаком у губы і закрычаў:

— Сволач прадажная! Сволач! Не было ніякага Ліба! Быў Боль! А Ліба ёсць толькі адзін! Яму было дадзена прозвішча ў інтэрнаце, зразумеў? Устаць! Адказвай неадкладна, сволач! Адкуль да цябе прыйшла гісторыя гэтага Ліба? Адкуль? Яе ведаю тут адзін я! Ну!

Калі Траўба панеслі ў камеру, Ліба звярнуўся да яго шэфа:

— Пане брыгадэнфюрэр, ці ёсць хоць кропля праўды ў словах Траўба?

Шэф гестапа цяжка дыхаў і выціраў твар вялікай хустачкай.

— Так, хлопчык, — адказаў ён, — ёсць. Больш таго, у яго словах усё праўда. Але гэта ніяк не кідае на цябе цені. Ты верны сын нацыі. Ты не сын борага, ты сын народа. Успомні: ты гаварыў аб сваім заданні каму-небудзь?

— Нікому, пане брыгадэнфюрэр.

— Я веру табе, сынок. Дзякую табе, хлопчык. Ты вельмі памог нам. Дзякую...

— Мая маці — таксама вораг нацыі?

— Ты ведаеш, я ніколі не хлусіў табе. Я не магу схлусіць табе і зараз — майму брату і таварышу па партыі: твая маці была такім жа ворагам, як і бацька.

— Яна жыве.

— Не. — Шэф гестапа паглядзеў у стальныя, спакойныя вочы Ліба і паўтарыў:

— Не. Пасля таго, як яе спроба замаху на жыццё твайго сапраўднага бацькі, нашага фюрэра, сарвалася, яе пасадзілі ў канцэнтрацыйны лагер. Яна мела ўсе магчымасці быць маці немца, яна магла выхоўваць цябе, хлопчык. Яна кінула цябе і пайшла да ворагаў. Яна асудзіла цябе на тое, што быў пазбаўлены ласкі, пазбаўлены мацярынскай рукі. Пры спробе ўцёкаў яе забілі. Цябе прынялі рукі фюрэра, сынок. Ці не так?

— Так, пане брыгадэнфюрэр.

— Райхсфюрэр СС ведае тваю гісторыю, верыць табе і ганарыцца табою. Мы не можам хлусіць адзін другому. Выбач мне за гэту праўду. Але я не магу хлусіць табе. Ты разумееш?

— Я разумею.

— У тваім сэрцы варухнуўся жаль?

— Жаль? Да каго?

— Добра сказаў, сынок, вельмі добра сказаў. Калі ты захочаш пагаварыць са мною яшчэ, прыходзь у любы час дня і ночы. А цяпер ідзі, у мяне будзе шмат усялякіх клопатаў.

— Хайль Гітлер!

— Хайль Гітлер, сынок!

Ліба спакойна вярнуўся дамоў, запаліў святло, паглядзеў на шторы святломаскіроўкі, узяў са стала два стаканы, вымыў іх, схаваў у шафу, потым вымыў лыжку, таксама схаваў яе ў шафу, а потым застрэліўся.

На наступны дзень немцы пачалі магутнае наступленне ў Ардэнах.

**(Працяг будзе)**

---

# КІНО

**Праграма на 24—29.X. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
,,Człowiek, który wątpi'' (radz.), 24—25. ,,Miasto bez wody'' (radz.), 26—27. ,,Droga do przystani'' (radz.), 28—29.

**Кляшчэлі**
,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), 24—25. ,,Dziki pies Dingo'' (radz.), 26—27. ,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radz.), 28—29.

**Дубіны**
,,Bariera ognia'' (radz.), ,,Kontrybucja'' (polski), 28—29.

**Нараўка**
,,Bariera ognia'' (radz.), ,,Kontrybucja'' (polski), 25—29.

**Нарва**
,,Kozacy'' (radz.), ,,Tajemnica tajgi'' (radz.), 25—29.

**Чыжы**
,,Nieśmiały w akcji'' (radz.), ,,Piekło i niebo'' (polski) 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Troje i las'' (polski), ,,Wódz czerwonoskórych'' (radz.), 25—29.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Ściana czarownic'' (polski), ,,Porzucona'' (radz.), 25—29.

**Орля**
,,Tajemnica zielonego boru'' (radz.) ,,Sąd'' (radz.), 25—29.

**Райск**
,,Don Gabriel'' (polski), ,,Zwyczajny faszyzm'' (polski), 25—29.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Pancernik Potiomkin (radz.), ,,Mroźny poranek'' (radz.), 24—27.

**Міхалова**
,,Droga do przystani'' (radz.), 24—25. ,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radz.), 26—27. ,,Najazd Czerwonego Księcia'' (radz.), 28—29.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Siedem nianiek'' (radz.), 24—25, ,,Dziewczęta'' (radz.), 26—27. ,,Kołysanka'' (radz.), 28—29.

**Шудзялава**
,,Dotknięcie nocy'' (polski), ,,Gdy drzewa były duże'' (radz.), 25—29.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Człowiek z karabinem'' (radz.), ,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), 25—29.

**Новы Двор**
,,Ktokolwiek wie'' (polski), ,,Nieprzyjaciel u progu'' (radz.), 28—29.

**Ліпск**
,,Czekajcie na listy'' (radz.), 28—29.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.

# ПЯКЕЛЬНАЯ ТРЫВОГА

— Ведаеш, Сцяпанку, пекла не будзе!

— А чаму не будзе?!

— Бо ўсю смалу людзі павыліваюць на дарогі...

Паласаты настрыў вушы. Паслухаўшы, аб чым мужыкі гавораць, падкруціў хвост, ды так рвануў з месца, што аж пяском закатлавала. І хутчэй паляцеў да Люцыпара з дакладам.

— А што цябе так рана прынясло? — абрушыўся Люцыпар.

— Мяне вялікая бяда прыгнала перад тваё яснае аблічча, — зарапартаваў Паласаты і расказаў пра падслуханую размову.

— Што?! Яны хочуць ліквідаваць пякельнае бяздонне!? — скрыгануў Люцыпар зубамі і зарагатаў на цэлую пашчэнку, аж на зямлю агністыя перуны пасыпаліся...

— Так! Тваё сіяцельства! Людзі хочуць разбурыць нам пекла і ўсю смалу павыліваць на дарогі! — заахаў збянтэжаны Паласаты.

— Эх! Шкада, што носіш на сабе чартоўскую шкуру! — замест пахваліць, зганіў Люцыпар Паласатага, аж шэрсць на ім дыбам стала.

— Ты слабую галаву маеш, мой міленькі.

— Бо сучасны свет цяжкі, — паскардзіўся Паласаты.

— Пачакай, зараз я табе пакажу штуку! — рыкнуў Люцыпар. — Ты, браток, мне не выкрунешся!

Паласаты грымнуў на калені, аж капыта забрашчалі і пачаў у Люцыпара скавытаць міласці.

Люцыпар свіснуў на двох пазурах. І зараз пачалі злятацца з усіх бакоў чэрці. З валізамі, рукзакамі, тэчкамі, актоўкамі і рапартоўкамі. У эланавых касцюмчыках і ў капелюшах. У краватках і без краватак. У артыльяновых фуфайках і рабочых камбінезонах!

Зляцеўся цэлы чартоўскі сейм. Кожны чорт вялікі майстар па свайму фаху. Зараз пачалася вялікая справаздача перад Люцыпарам.

Выступіў выфранчаны Спакуснік: «Я займаюся грамадскімі чынамі. На актыўнага арганізатара даносчык арганізуе чын для свае карысці і памагае для свайго бацькі забаўляць грэблю. А да людзей: Што вы за дармоху будзеце для кагось рукі біць? — І чым раз'ехаўся!..»

За Спакуснікам голас узяў Дрыготка ў форме дарожнага майстра: — Работа ў нас ідзе, абы дзень да вечара. Даношу работнікам гарэлку. Падальюць і забудуцца палажыць трубу пад провады. Зальюць асфальт, а потым зноў ломляць. А для актыўнейшых п'яніцаў, якія рваліся да работы, папарылі рукі асфальтам! Замест рабіць, ходзяць да дахтароў і хухаюць!

— А я, — выравўся Паралюс, — вяду работу толькі з грамадскімі радамі!

Кожнаму Старшыні ГРН так загаціў галаву ўсялякімі папяровымі справамі, што мала не падурэюць! Маглі б мець асфальтавыя дарогі, а яны па-гаспадарску — брукуюць кацячымі лабамі». Дагэтуль расходавалі толькі 30% прызнанага фонда! Грошыкі ёсць. Але зіма наблізжаецца і годзік канчаецца. І зноў крэдыты абрэжуць...

— Пазвольце? — Выцягнуў лапу Хапун, у рабочым камбінезоне: — Я хачу звярнуць увагу, што нашая пякельная смала ідзе не толькі на дарожнае будаўніцтва! Вялікія склепы і магазіны людзі крыюць цяпер папаю, а папу заліваюць смалою. У ГС і нанялі работнікаў, каб расмалавалі дах на збожжавым складзе. Прышлі смалаваць. А я кажу: — Вы ж людзі. Нашто са смалою вазіцца? А вэцаю? А як жа, заляпілі!

— А ха! ха! ха! — зарагатаў Люцыпар. Страсянуў Паласатага за рогі і загаварыў: — Ты, прастафіля, падымаеш трывогу і толькі ўзбударажыў мне цэлае пекла! Невук з цябе і анальфабэта! — вылаяў.

— А як не ўмееш працаваць з людзьмі, то назаўсёды, мой рагаты саколік, застанешся пячапалам!..

**Цётка Мальвіна**



Я б таксама пайшоў бы на прагулку, але бачыш, я з абставай.




### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марыі Харытанюк, Олі Максымюк з вёскі Сацы, Гайнаўскага павета, Галіны К. з Гайнаўшчыны, Валі Кур'яновіч з Нарвы і яе сяброва: Крысі, Эвы, Ніны і Галіны Русэль з Грыбоўшчыны, Сакольскага павета, змяшчаем польскую песню п.з.

Za da-le-ko mie-szkasz, mi-ły, za da-le-ko mie-szkasz... I dla-te-go na-sza mi-łość ta-ka sła-ba je-szcze.

Refren: Za często patrzysz, mi-ły, na ze-ga-rek, za wcze-śnie mó-wisz: „Mu-szę iść"... Za pó-źno mówisz mi: „Dzień do-bry!" z ra-na, za pó-źno pu-kasz do mych drzwi.

Sztych. J. Rynczak

# Za daleko mieszkasz, miły

Muzyka: Czesław Niemen
Tekst: Jacek Grań

I.
Za daleko mieszkasz, miły,
za daleko mieszkasz...
I dlatego nasza miłość
taka słaba jeszcze.
Refren:
Za często patrzysz, miły, na zegarek,
za wcześnie mówisz: „Muszę iść"...
Za późno mówisz mi „ dzień dobry!" z rana,
za późno pukasz do mych drzwi.
II.
Za daleko mieszkasz, miły,
choć w tym samym mieście...
Trudno wierzyć w taką miłość,
którą dzieli przestrzeń...
Refren...
III.
Za daleko mieszkasz, miły,
choć w tym samym domu...
Trzeba mieszkać jeszcze bliżej,
by miłości pomóc...
Refren...

### ПРЫЧЫНА

— Ты звярнула ўвагу, што нашы суседзі сёння не крычаць адзін на аднаго.

— Напэўна пасварыліся.

### ЯКІЯ

— Як вы думаеце, якія кветкі мне больш да твару?

— Штучныя.

### СЯБРОЎЦЫ

— Скажы, сколькі ты дала б, каб мець такія прыгожыя валасы, як я.

— А сколькі ты дала?

### ХВАРОБА

Лекар катэгарычна забараніў маёй жонцы займацца кухняй.

— Значыць, ваша жонка хворая?

— Не, я хворы.

### ХАЛОДНЫЯ ЗАКУСКІ

— Ёсць у вас што-небудзь халоднага паесці? — спыталі ў сталоўцы.

— Знойдзецца, — буркнуў кухар.

— А што менавіта?

— Учарашні боршч ды пазаўчарашнія катлеты.



Жоны не ўбіраюцца, каб падабацца сваім мужам. Каб так было заўсёды, насілі б старое адзенне.

### РАЗГНЕВАЎСЯ

Малы Міхась разгневаўся на маці за тое, што яна не ўзяла яго з сабою ў горад. Калі маці вярнулася, хлопчык прыйшоў да бацькі і кажа:

— Тату, твая жонка ўжо прыйшла з горада...

### ЯК НЕ ХВАЛЯВАЦЦА

Позна ноччу міліцыянер спыніе аўтамабіль на горнай дарозе:

— Вы ведаеце, што ў вас не гарэць задняя ліхтары?

Вадзіцель вылазіць, у адчаі аглядваецца, пачынае бегаць, мітусіцца. Міліцыянер спачувальна гаворыць:

— Ды не хвалюйцеся ж, не вялікая бяда.

— Як жа мне не хвалявацца! А дзе мой прычапны фургон з жонкай і дзецьмі?



— Як хутка дарастаюць нашы дзеці. Мой сын ужо не брыецца...

— Так — а мая дачка ўжо носіць кароткую спадніцу.

### ВАКОЛ СЛАВУТАСЦЕЙ

— Навошта лекары, калі ў наш час такая вялікая колькасць медыцынскай літаратуры? — заўважыла адна дама вядомаму доктару Заўэрбруху.

— Ну, дык што, лячыцеся самі, — з усмешкай заўважыў Заўэрбрух, — але будзьце асцярожны, каб выпадкова не памерці ад памылак у тэксце.




### Мода на старызну

Цікавую карціну можна было наглядаць нядаўна ў Булонскім лесе — улюбёным месцы прагулак парыжан. На адной з ускраін выстраіліся ў рад некалькі дзесяткаў аўтамабіляў, знешні выгляд якіх гаварыў сам за сябе: гэта былі мадэлі выпускаў ад 1898 да 1922 года.

Уладальнікі гэтых машын вырашылі наладзіць своеасаблівы аўкцыён, спадзяючыся знайсці аматараў старызны, якія могуць зацікавіцца далёкімі продкамі цяперашніх быстраходных «рэно» і «сітраенаў». І іх надзеі спраўдзіліся — амаль усе выстаўленыя на агляд публікі лімузіны былі прададзены, прычым па даволі высокай цане.

### Слон з... кілішкам

Небывалай сілы снегапад абрушыўся на Кару (велізарнае ўзвышша на поўначы Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі). Снег пакрыў тэрыторыю ў 5.000 квадратных міль, і ў некаторых месцах таўшчыня яго покрыва дасягнула паўтара метра.

Снегапад прынёс рэзкае паніжэнне тэмпературы. Холад быў настолькі моцны, што служыцелі цырка ў горадзе Дурбане, каб выратаваць сланоў і малпаў ад гібелі, увялі ў іх звычайны рацыён значную дозу каньяку.

### Мыла з начынкай

У Японіі пачалі выпускаць мыла, у якое ўложана некалькі карцінак. Па меры расходавання кавалка мыла ў ім з'яўляюцца ўсё новыя і новыя малюнкі. Цяпер дзеці з цікавасцю і захапленнем мыюць рукі такім мылам.




Трывогу пажарнік трубіў цудоўна. Толькі не ведаў, дзе гарыць.